Каханоўскі, А. Г. Разгортванне мадэрнізацыйных працэсаў у Беларусі ў XIX–XX ст. / А.Г. Каханоўскі // Працы гістарычнага факультэта БДУ: навук. зб. Вып. 4 / рэдкал.: У. К. Коршук (адк. рэд.) [і інш.]. — Мінск: БДУ, 2009. — С. 218–228.

***А. Г. КАХАНОЎСКІ***

# РАЗГОРТВАННЕ МАДЭРНІЗАЦЫЙНЫХ ПРАЦЭСАЎ У БЕЛАРУСІ Ў XIX — ПАЧАТКУ XX ст.

На працягу XIX - пачатку XX ст. у Беларусі адбываліся істотныя трансфармацыйныя змены, якія склалі важны этап пераходу ад традыцыйнага да індустрыяльнага грамадства. Для абазначэння і вывучэння гэтага шырокага працэсу ў апошнія гады на постсавецкай прасторы стала папулярным і дастаткова эфектыўным выкарыстанне мадэрнізацыйнай парадыгмы. Мадэрнізацыя — працяглы гістарычны працэс, які часта меў хвалявідны, цыклічны характар. Безумоўна, не бывае ідэальнага тыпу мадэрнізацыйных працэсаў, для кожнай краіны і рэгіёна характэрны свой шлях. Аднак агульны змест мадэрнізацыйных працэсаў укладваецца ў шэраг узаемазвязаных накірункаў: дыферэнцыяцыя сацыяльнай структуры грамадства, замацаванне адкрытай сістэмы стратыфікацыі з высокім узроўнем сацыяльнай мабільнасці, рацыяналізацыя і секулярызацыя грамадскай свядомасці, значныя тэмпы урбанізацыі, пераход да выкарыстання машынных тэхналогій, тэхналагічны рост і шырокае выкарыстанне навуковых ведаў, прафесіяналізацыя розных відаў дзейнасці, станаўленне грамадзянскай супольнасці, распаўсюджванне пісьменнасці і свецкай культуры пры адначасовай дыферэнцыяцыі яе галоўных элементаў, распаўсюджванне сродкаў камунікацыі [17, с. 53—65]. Для асобы істотным становіцца індывідуалізм, вера ў навуку і прагрэс, пазітыўнае ўспрыманне каштоўнасці асабістай кар’еры і мабільнасці. Мадэрнізацыя ўключае працэсы нацыянальнай ідэнтыфікацыі, станаўлення нацыі сучаснага тыпу, зніжэння ролі і ўплыву рэлігіі, дэмаграфічнай рэвалюцыі і г. д. Гэта былі змены рознага ўзроўню, хуткасці, маштабу, складанасці і накіраванасці.

Вывучэнне разгортвання працэсаў мадэрнізацыі ў Беларусі XIX — пачатку XX ст. як самастойнай навуковай праблемы не праводзілася. Асобныя пытанні, у якіх праз парадыгму фармацыйнага падыходу



знайшлі адлюстраванне некаторыя аспекты працэсаў мадэрнізацыі Беларусі (напрыклад, развіццё прамысловасці, гарадоў, эвалюцыя сацыяльнай структуры грамадства і інш.), атрымалі асэнсаванне ў айчыннай і замежнай навуковай літаратуры. У яе ліку працы М.В. Біча [1, 2], М. Ф. Болбаса [3], П. Д. Верашчагіна [4], Л. П. Ліпінскага [8], В. П. Панюціча [11], К. І. Шабуні [21], С. М. Самбук [18], З. В. Шыбекі [22]. У апошнія гады з’явіліся даследаванні В. Л. Насевіча [10], С. М. Токця [19], дзе больш прадметна ставіцца пытанне аб мадэрнізацыі беларускай вёскі.

Мэтай дадзенага артыкула з’уляецца аналіз этапаў, асноўных рыс і накірункаў разгортвання мадэрнізацыйных працэсаў на тэрыторыі Беларусі ў XIX — пачатку XX ст. Вытокі протамадэрнізацыі можна назіраць у XVI ст., калі Беларусь знаходзілася пад прыметным уплывам ідэй Адраджэння і Рэфармацыі, новых ідэалаў і каштоўнасцей. Пратэстанцкая этыка і рэлігія садзейнічалі станаўленню капіталістычнай сістэмы. У XVI ст. у гарадах Беларусі фарміруецца новая працоўная этыка, стаўленне да працы як да каштоўнасці, пазітыўныя адносіны да прадпрымальнасці і ашчаднасці, імкненне да атрымання прыбытку, у тым ліку праз ліхвярскую дзейнасць, якое ахапіла як шляхту, так і заможных гараджан [9, с. 242—243, 249]. Гэтыя змены адбываліся, як вядома, насуперак сярэдневяковым стэрэатыпам грахоўнасці атрымання прыбытку. Але ў Беларусі новыя ідэі не знайшлі свайго ўкаранення. Некалькі дзесяцігоддзяў імклівага развіцця рэфармацыйнага руху змяніліся інтэнсіўнай контррэфармацыяй. Зацвярджэнне пратэстанцкіх ідэалаў засталося нерэалізаванай гістарычнай альтэрнатывай развіцця беларускага грамадства. Эвалюцыя трэцяга саслоўя, якое выявіла свой эканамічны патэнцыял у гарадах Беларусі ў XVI ст., была стрымана ўвядзеннем грабежніцкіх мытных тарыфаў у інтарэсах шляхты і магнатаў.

У пачатку XVIII ст. адчыняюцца ў Беларусі першыя мануфактуры, са з’яўленнем якіх у краінах Захаду часам звязвалі даіндустрыяльную мадэрнізацыю. Эканамічныя поспехі другой паловы XVIII ст. не былі падмацаваны трывалай дзяржаўнай воляй да рэфармавання грамадства. Падзелы Рэчы Паспалітай, змена геапалітычных рэалій, уваходжанне ў склад Расійскай імперыі істотна паўплывалі на накірунак і тэмпы працэсаў. У краіне, дзе паступова адбываліся змены, цяжка вызначыць момант пачатку мадэрнізацыі. Гэтая заўвага тычыцца Расійскай імперыі, усіх яе рэгіёнаў. У 20-х гг. XIX ст. у Беларусі са з’яўленнем першых фабрык і заводаў пачынаецца прамысловы пераварот, але аб індустрыялізацыі, што з’ўлялася на пачатковых этапах стрыжнем мадэрнізацыі, у гэты час можна ўзгадваць з вялікай доляй умоўнасці і толькі як аб пер-

шым кроку да яе. Узнікненне мануфактурна-фабрычнай сістэмы Беларусі, таксама як і ў краінах Заходняй Еўропы, адбылося ў мястэчках і невялікіх населеных пунктах, дзе не было рамесніцкай карпаратыўнай арганізацыі. Мануфактуры ў Беларусі адкрываліся перш за ўсё ў магнацкіх рэзідэнцыях і іх з’яўленне выклікала супраціўленне з боку рамесніцкіх цэхаў. Першыя мясцовыя фабрыкі былі таксама адчынены ў дваранскіх маёнтках.

Вялікія рэформы 60—70-х гг. XIX ст. сталі вехавай падзеяй развіцця мадэрнізацыйных працэсаў. Вызваленне сялян стымулявала пераход ад сістэмы прымусовай працы да вольнай. У Расійскай імперыі рэформы праніклі ў глыбокія слаі традыцыйнай сацыяльнай рэчаіснасці, таму што гэта было падрыхтавана выяўленнем цэннастнай матывацыі, ментальнымі пераменамі, якія закранулі найперш інтэлектуальную і бюракратычную эліты [6, с. 140]. Беларусь лічылася найбольш падрыхтаванай часткай імперыі да рэформ і выкарыстоўвалася ў якасці своеасаблівага палігона для іх выпрабаванняў (напрыклад, падрыхтоўка да адмены прыгоннага права), а з другога боку — уплыў рэформ тут быў больш абмежаваны з-за асаблівасцей рэалізацыі ўрадавай палітыкі. Паралельна правядзенню рэформ у Беларусі быў уведзены рэжым абмежавальных законаў у дачыненні да католікаў, яўрэяў, замежных грамадзян, ішло змаганне з польскімі ўплывамі. Накірунак рэформ на Беларусі быў скіраваны ў значнай ступені на уніфікацыю беларускіх губерняў з вялікарускім цэнтрам.

Пачатак XX ст. у гісторыі Беларусі вызначаўся прамысловым крызісам, рэвалюцыйнымі падзеямі 1905—1907 гг., правядзеннем аграрнай і земскай рэформ, нацыянальна-культурным і гаспадарчым пасля рэвалюцыі ўздымам, пры адначасовым росце матэрыяльнага дабрабыту насельніцтва і інш. У гэты перыяд узмацнілася канцэнтрацыя вытворчасці, адчувальны ўплыў на эканоміку пачалі аказваць манапалістычныя аб’яднанні, а таксама павялічылася колькасць людзей, якія ў сваёй дзейнасці не былі непасрэдна заняты ў вытворчай сферы. Названыя працэсы садзейнічалі пашырэнню прасторы мадэрнізацыі Беларусі. Сталыпінская аграрная рэформа істотна паўплывала на сацыяльныя працэсы ў вёсцы. Адразу праявілася спецыфіка яе рэалізацыі ў беларускіх губернях. На большай частцы тэрыторыі Беларусі адсутнічала сялянская абшчына, разбурэнне якой з’яўлялася першачарговай задачай правядзення рэформы. У Віцебскай і Магілёўскай губернях працэс знішчэння абшчыны ішоў хутчэй, чым у расійскім цэнтры. Да 1915 г. з абшчыны ў Беларусі выйшла 48 % гаспадарак, у той жа час як у сярэднім



па Расіі 22 %. Пры правядзенні рэформы ставіліся таксама задачы пашырэння хутарскіх гаспадарак і перасялення часткі беззямельных і малазямельных сялян у Сібір і іншыя слабазаселеныя раёны. Хутары з’явіліся ў Беларусі яшчэ да пачатку сталыпінскай рэформы. У перыяд яе правядзення колькасць хутарскіх гаспадарак у Беларусі расла хутчэй, чым наогул па Расіі. Найбольш інтэнсіўна гэты працэс разгортваўся ў Віцебскай і Магілёўскай губернях, на якія прыходзілася больш 60 % хутароў. За час правядзення рэформы ў беларускіх губернях было створана звыш 128 тыс. хутароў і адрубоў, куды перайшло 12 % сялянскіх гаспадарак. Малазямельныя і беззямельныя жыхары вёсак, разлічваючы на ўрадавую дапамогу, распрадавалі сваю маёмасць і выязджалі ў Сібір. За 1904—1914 гг. з Беларусі перасялілася звыш 360 тыс. чалавек.

Мадэрнізацыя і індустрыялізацыя вельмі цесна паміж сабой звязаны, але гэтыя працэсы не падмяняюць адзін аднаго. У краінах Заходняй Еўропы на пачатковых этапах мадэрнізацыі індустрыялізацыя выступала галоўным стрыжнем пераходу ад традыцыйнага да сучаснага грамадства. Аднак у розных краінах і рэгіёнах уплыў індустрыялізацыі быў неаднолькавым. У беларускіх губернях уплыў індустрыялізацыі запозніўся і не набыў такой сілы. Фабрычна-заводская вытворчасць Беларусі была сканцэнтравана пераважна на дробных прадпрыемствах і была заснавана на выкарыстанні мясцовай сыравіны.

Колькасць фабрык і заводаў у Беларусі за 60—90-я гг. XIX ст. павялічылася ў 15 разоў, а аб’ём вытворчасці на іх узрос у 37 разоў. Сродкі вытворчасці ў гэты час склалі 32 % ад усёй прамысловай прадукцыі Беларусі [3, с. 133—134, 186—187]. Гэты паказчык некалькі ніжэй, чым сярэдні (40 %) па Расійскай імперыі, але трэба ўлічваць традыцыйную спецыялізацыю прамысловасці Беларусі па перапрацоўцы мясцовай сельскагаспадарчай, мясной і мінеральнай сыравіны, характэрную для яе амаль да сярэдзіны XX ст. Мадэрнізацыя прамысловасці Беларусі ў другой палове XIX — пачатку XX ст. не прывяла да кардынальных змен у яе структуры. Нягледзячы на апераджальныя тэмпы росту фабрычна-заводскай індустрыі, асабліва ў апошняе дзесяцігоддзе XIX — пачатку XX ст., пераважную долю па аб’еме вытворчасці і колькасці занятых рабочых складалі дробныя і адносна невялікія прадпрыемствы з колькасцю наёмных работнікаў да 50 чалавек. Захавалася таксама спецыялізацыя прамысловасці на перапрацоўку мясцовай сельскагаспадарчай, лясной і мінеральнай сыравіны. Дарэчы, гэта рыса была актуальна для беларускай індустрыі да сярэдзіны XX ст. У выніку толькі пасляваеннай індустрыялізацыі Беларусь набыла прамысловы патэнцыял, які па сва-



ёй структуры, узроўню канцэнтрацыі, выкарыстанню новых тэхналогій наблізіўся да стандартаў індустрыяльнага грамадства. Аб узроўні разгортвання працэсаў індустрыялізацыі можна меркаваць паводле

змены ўдзельнай вагі рабочай сілы, занятай у сельскай гаспадарцы. У прамысловасці Беларусі працавала ў пачатку ХХ ст. 237 тыс. рабочых, што складала толькі каля 3 % ад агульнай колькасці насельніцтва. Рабочы клас у значнай ступені складаўся не з патомных рабочых, а з учарашніх сялян ці збяднелых рамеснікаў, гандляроў.

Адным з магістральных працэсаў мадэрнізацыі, што падштурхоўваўся прамысловым развіццём, стала урбанізацыя. Горад павінен быў цягнуць да адпаведнай цывілізацыі навакольны сельскі асяродак. Павелічэнне ўдзельнай вагі гарадскога насельніцтва ў Беларусі адбывалася нязначнымі тэмпамі: з 10,4 % у 1863 г. да 11,0 у 1913 г. [22, с. 59]. Рост гарадоў Беларусі стрымлівалі асаблівасці тэрытарыяльнага размяшчэння і спецыялізацыі мясцовай прамысловасці, а таксама накірунак урадавай палітыкі (умацаванне рысы аседласці яўрэяў, штучнае абмежаванне надання афіцыйнага статуса горада населеным пунктам і інш.). У Беларусі менш адчувальна праявіўся ўплыў сялянства на сацыяльную мабільнасць гарадскіх груп жыхароў. На мяжы ХІХ—ХХ ст. істотнай была раз’яднанасць сацыяльных працэсаў у горадзе і на вёсцы Беларусі.

Пад уплывам мадэрнізацыі адбываўся працэс трансфармацыі сацыяльнай структуры і сацыяльнай стратыфікацыі беларускага грамадства, фарміраванне класаў буржуазнага грамадства, павялічваўся ўзровень тэрытарыяльнай і сацыяльнай мабільнасці насельніцтва. Пад ціскам нарастаючага к канцу ХІХ ст. беззямелля, вострай ва ўмовах Беларусі аграрнай перанаселенасці, сялянства вымушана было адыходзіць на промыслы, шукаць дадатковыя заработкі па-за межамі сваёй гаспадаркі, вёскі і г. д. Амаль палова сялян значную частку даходаў атрымлівала не праз сельскагаспадарчыя заняткі. Выхадцы з заходняга рэгіёна Беларусі першымі накіраваліся ў пошуках працы ў краіны Еўропы і Амерыкі, праявілі большую міграцыйную актыўнасць. Працэсы тэрытарыяльнай мабільнасці апераджалі сацыяльную. У паведамленні Гродзенскага губернатара Віленскаму генерал-губернатару ад 20 кастрычніка 1890 г. адзначалася з’яўленне ў некаторых паветах эміграцыйнага руху сялян, пераважна каталікоў, у Бразілію [5, с. 1]. У сувязі з гэтым фактам губернатар накіраваў некалькі цыркуляраў міравым пасрэднікам і паліцыі, дзе патрабаваў аказаць супрацьдзеянне дадзенаму памылковаму імкненню сельскіх жыхароў, якое прывядзе да поўнага разбурэння іх гаспадарак. У той жа год у Віленскай губерні было адзначана 1229 эміг-



рантаў у Амерыку, з іх 312 чалавек хрысціянскага веравызнання і 917 іудзейскага [5, с. 19]. За папярэднія гады з губерні эмігрыравала 4797 чалавек, у тым ліку 895 хрысціян і 3902 яўрэяў [5, с. 19]. У 1890 г. з Вілейскага павета выехала 126 жыхароў, за папярэднія гады — 793 чалавек, з Лідскага — адпаведна 127 і 505 чалавек, Ашмянскага — 276 і 1124, з Дзісненскага — 7 і 103 чалавек.

З пашырэннем мадэрнізацыйных працэсаў адбываецца станаўленне грамадзянскай супольнасці з характэрнымі для яе добраахвотнымі арганізацыямі, аб’яднаннямі, клубамі, палітычнымі партыямі і інш. Традыцыйнае грамадства станаў і саслоўяў змяняецца на класавае грамадства. У пачатку ХХ ст. саслоўная арганізацыя ўсё менш перадвызначала сацыяльную ролю і становішча асобы ў грамадстве, значна больш уплывалі асабістыя дасягненні, у тым ліку праз набыццё прафесійнай адукацыі. Саслоўна-карпаратыўная арганізацыя стала ў меншай ступені абмяжоўваць тэрытарыяльную мабільнасць насельніцтва. Нівеліроўка саслоўных абмежаванняў адбывалася ў гандлёва-прамысловай сферы. Фактычна гандлёва-прамысловае расійскае заканадаўства ў другой палове ХІХ — пачатку ХХ ст. насіла шмат у чым усесаслоўны характар. Пацвярджэннем дадзенай тэндэнцыі стала выданне Палажэнняў ад 1 студзеня 1863 г. і 9 лютага 1865 г. «Аб пошлінах за права гандлю і іншых промыслаў», «Палажэнне аб дзяржаўным прамысловым падатку» ад 8 чэрвеня 1898 г. Статут гандлёвы 1893 г., Статут аб прамысловасці 1893 г. дазвалялі займацца гандлем і заснОўваць прамысловыя прадпрыемствы расійскім грамадзянам незалежна ад саслоўнай прыналежнасці. Аднак сямейныя традыцыі і нормы па-ранейшаму адыгрывалі значную ролю ў арганізацыі грамадскага жыцця многіх сацыяльных груп насельніцтва.

Паўстанне 1863 г. стала важным этапам адліку эвалюцыі ўрадавай палітыкі на тэрыторыі Беларусі, фарміравання грамадска-палітычнага руху і думкі. Пасля яго задушэння становіцца менш адчувальным уплыў польскага дэмакратычнага асяродка, які шмат у чым успрыняў ідэі тэорыі арганічнай працы. Расійскія ўрадавыя колы і грамадская думка схіліліся да канцэпцыі агульнарускай нацыі, у склад якой уключылі велікаросаў, маларусаў і беларусаў. У сувязі з гэтым актуальным стаў мэтанакіраваны адрыў насельніцтва беларускіх губерняў ад гістарычнай традыцыі Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, настойлівая рэалізацыя уніфікацыйных мерапрыемстваў і часам добраахвотная русіфікацыя ў межах мадэрнізацыйнай перспектывы. Невыпадковым стаў паступовы занапад сярод адукаванага грамадства ідэй «ліцвінскага» патрыятызму і пашырэнне самаўсведамлення беларускай нацыі ў сучасным



яе разуменні. Думаецца, што ў гэтым працэсе, акрамя аб’ектыўных асноў традыцыйнай культуры і светапогляду, немалаважным фактарам стала сацыяльна-этнічная інжынерыя ўрадавых колаў, накіраваная на «разпалячванне» жыхароў заходніх губерняў, а таксама актыўная грамадска-культурная дзейнасць

беларускай сацыялістычнай і рэвалюцыйна-дэмакратычнай моладзі, якая імкнулася адысці ад шляхецкіх традыцый палітычнай нацыі ранейшай эпохі.

Інтэлігенцыя стала ўвасабленнем і носьбітам мадэрнізацыйных зрухаў у сферы культуры. Яна дапамагла станаўленню новай культуралагічнай парадыгмы, якая акцэнтавала ўвагу на прагрэс, удасканаленне, сацыяльны дабрабыт, развіццё індывідуалізму як асаблівай каштоўнасці, веру ў навуку і тэхналогіі. Грамадска-палітычныя падзеі XIX — пачатку XX ст., змены ва ўрадавай палітыцы, спробы трансфармаваць сацыяльную сістэму грамадства Беларусі да стандарту цэнтральных рэгіёнаў Расійскай імперыі вызначылі этапы і асаблівасці фарміравання мясцовай інтэлігенцыі. Адна з галоўных спецыфічных рыс, што паставіла пад сумненне непарыўнае развіццё інтэлігенцыі Беларусі — страта фізічнай і часам духоўнай пераемнасці паміж рознымі пакаленнямі гэтай групы. Прычынамі такой з’явы сталі паўстанні, актывізацыя нацыянальна-вызваленчага руху і рэпрэсіі ў дачыненні да іх удзельнікаў. Апошнімі вельмі часта станавіліся прадстаўнікі творчай эліты, студэнцкая і вучнёўская моладзь. Хто пазбягаў арышту, вымушаны быў эмігрыраваць у краіны Заходняй Еўропы. Неспрыяльныя ўмовы развіцця нацыянальнай культуры абумовілі яшчэ адну асаблівасць развіцця інтэлігенцыі Беларусі. Яна стала донарам развіцця культур суседніх народаў, прычым гэта функцыя прывяла фактычна да страты пераважнай часткі ўласнай культурнай эліты, збяднення інтэлектуальнага жыцця.

Пасля падаўлення паўстанняў 1831 г. і асабліва 1863 г. праявіла сябе наступная тэндэнцыя: цэнтры фарміравання інтэлігенцыі, нацыянальна-культурнага жыцця паступова перамяшчаюцца па-за межы Беларусі. Імі сталі, перш за ўсё, вышэйшыя навучальныя ўстановы і грамадска-культурныя аб’яднанні Санкт-Пецярбурга і Масквы, а таксама краін Заходняй Еўропы. Актывізацыя нацыянальна-культурнага жыцця ў пачатку XX ст. істотна зменшыла дамінуючую ролю гэтай тэндэнцыі. З пашырэннем легальнага друку, у тым ліку з’яўленнем беларускамоўнага («Наша доля», «Наша Ніва», пазней «Беларус», «Лучынка» і інш.), распаўсюджваннем прафесійных, грамадска-культурных аб’яднанняў і гурткоў, заснаваннем выдавецкіх суполак, нацыянальных тэатральных калектываў узраслі новыя формы і кірункі інтэлектуальнага жыцця. На



гэтым этапе выразна акрэсленымі становяцца розныя этнічныя групы інтэлігенцыі, заўважнай плынню вылучаецца беларуская нацыянальная інтэлектуальная эліта. Апошняй, аднак, не ўдалося атрымаць дастатковы ўзровень сацыяльнай сталасці, нягледзячы на самаахвярнасць і стварэнне ўласнай палітычнай партыі — Беларускай сацыялістычнай грамады, для рэалізацыі ў поўнай меры сваіх нацыянальна-палітычных ідэалаў. Разглядаемы перыяд станаўлення беларускай інтэлігенцыі стаў «нашаніўскім» паводле выключнай ролі рэдакцыі газеты ў гуртаванні сіл вакол сябе і ў тэарэтычным асэнсаванні месца інтэлігенцыі ў вырашэнні сацыяльнага і нацыянальнага пытанняў.

Індустрыялізацыя патрабуе больш высокага ўзроўню адукацыі працоўнай сілы, суправаджаецца пашырэннем пісьменнасці, развіццём сістэмы адукацыі. У пэўнай ступені колькасны паказчык удзельнай вагі пісьменнасці насельніцтва з’яўляецца індыкатарам уцягнутасці грамадства ў працэсы разгортвання мадэрнізацыі. Акрамя таго, адукацыя ва ўмовах XIX — пачатку XX ст. і валоданне элементарнай граматай былі надзейнай асновай для прадстаўнікоў розных сацыяльных слаёў насельніцтва павялічыць свой сацыяльны статус. Пашырэнне пісьменнасці складала адзін з найбольш важных фактараў фарміравання грамадзянскай і этнічнай свядомасці розных сацыяльных груп насельніцтва.

Адпаведна дадзеных перапісу насельнітва 1897 г. найбольш высокі паказчык узроўню пісьменнасці быў адзначаны сярод насельніцтва Віленскай губерні — 33,9 %, у тым ліку і сярод жаночай часткі жыхароў — 25,2 % [12, табл. XXIV]. Другі па велічыні паказчык сярод насельніцтва Гродзенскай губерні — 33,1 %, прычым самы высокі сярод мужчын — 46,5 % [14, табл. XXIV]. Па астатніх губернях велічыня ўдзельнай вагі пісьменных жыхароў істотна не адрозніваецца: у Віцебскай — 25,2 % (сярод мужчын — 34,3 %, жанчын — 16,1 %) [13, табл. XXIV]; Мінскай — 23,8 % (мужчыны — 34,1 %; жанчыны — 13,5 %) [15, табл. XXIV]; Магілёўскай — 23,3 % (мужчыны — 35,3 %; жанчыны — самы нізкі ўзровень — 11,3 %) [16, табл. XXIV]. Прыведзеныя сумарныя паказчыкі аб удзельнай вазе пісьменнага насельніцтва па кожнай губерні некалькі адрозніваюцца ад даных, якія прывёў у сваім артыкуле М. М. Улашчык: Віленская — 33,9 %; Віцебская — 27,1 %; Гродзенская — 31,5 %; Мінская — 22,7 %; Магілёўская — 21,8 % [20, с. 109]. Сярод гарадскога насельніцтва беларускіх губерняў прыкладна аднолькавы быў узровень пісьменнасці. Стан пісьменнасці сельскіх жыхароў вылучаўся больш высокімі паказчыкамі ў Віленскай і Гродзенскай губернях, у астатніх — узровень быў дастаткова блізкі. Сярод саслоўных груп насельніцтва Бе-



ларусі найбольшай удзельнай вагой пісьменных вылучалася хрысціянскае духавенства. Узровень адукаванасці святароў-мужчын па ўсіх без выключэння губернях набліжаўся да 100 %; некалькі ніжэй ён быў сярод жаночай часткі духоўнага саслоўя — ад 85 да 95 %, але гэты паказчык быў у сярэднім вышэй за астатнія сацыяльныя групы насельніцтва.

Дваране і чыноўнікі па стане авалодання граматай займалі другую пазіцыю пасля духавенства. Ступень варыяцыі лічбавых паказчыкаў пісьменнасці дваран і чыноўнікаў па губернях была большай, чым у іншых саслоўных груп, за выключэннем сялянства. Узроўнем пісьменнасці вылучаліся прадстаўнікі вышэйшага саслоўя Гродзенскай (91,5 %) і Віцебскай (79,2 %) губерняў [7, с. 8]. Нечакана нізкім аналагічны паказчык аказаўся ў дваран і чыноўнікаў Віленскай (66,4 %) і Мінскай (63,9 %) губерняў. Дастаткова аднароднымі лічбамі зафіксаваны стан пісьменнасці пачэсных грамадзян, купцоў, мяшчан і прадстаўнікоў іншых гарадскіх саслоўяў. Сярэднія паказчыкі іх па беларускіх губернях вар'іруюцца ў межах ад 57,2 % (Гродзенская губерня) да 47,8 % (Мінская губерня). Адчувальна больш адрозніваюцца даныя стану пісьменнасці жаночай часткі гарадскіх саслоўяў; іх колькасныя паказчыкі больш значны дыяпазон варыятыўнасці: ад 45,3 % у паветах Гродзенскай губерні да 28,4 % — у Мінскай.

Па веравызнаннях самы высокі паказчык адукаванасці быў характэрны для пратэстантаў. Для гэтай групы ўласціва практычна роўная велічыня працэнта пісьменных для мужчын і для жанчын. Найбольш высокая ўдзельная вага пісьменных была ў пратэстантаў Віленскай губерні (76,3 %), мінімальны ўзровень — у Мінскай (57,8 %). Дастаткова значнымі былі паказчыкі адукаванасці ў іудзеяў. Максімальнае і мінімальнае значэнні іх знаходзіліся ў дыяпазоне ад 54,3 % (Віленская губерня) да 50,7 % (Мінская губерня) у мужчын і ад 35,3 % (Віцебская губерня) да 29,7 % (Мінсная губерня) у жанчын. У мусульман Беларусі ўдзельная вага пісьменных вар'іравалася ў межах лічбавых паказчыкаў ад 41,5 % (Віленская губерня) да 34,1 % (Магілёўская губерня) сярод мужчын і ад 50,7 % (Гродзенская губерня) да 20 % (Магілёўская губерня) сярод жанчын. Працэнт пісьменных у католікоў быў некалькі ніжэй, чым у названых вышэй канфесійных груп. У мужчын ён знаходзіўся ў межах ад 41,7 % (Гродзенская губерня) да 33,5 % (Віленская і Мінская губерні). Для каталічак была характэрна большая дыстанцыя паміж максімальным і мінімальным паказчыкамі адукаванасці: 41,4 % (Віцебская губерня) і 23,4 % (Мінская). У самай шматлікай канфесійнай групы — праваслаўных, варыятыўнасць даных аб узроўні адукаванасці была значнай.



Істотна адрозніваўся працэнт пісьменных у мужчын і жанчын. Удзельная вага адукаваных сярод апошніх была ў тры-пяць разоў меншая, чым у мужчын праваслаўных. Напрыклад, у Гродзенскай губерні паказчык пісьменнасці ў мужчын складаў 32,6 %, у жанчын — 7,1 %. Аналагічныя даныя па Мінскай губерні, дзе быў найменшы ўзровень пісьменнасці праваслаўных, былі зафіксаваны ў наступных межах: адпаведна 18,9 і 3,7 %. Самым нізкім узроўнем пашырэння пісьменнасці вызначаліся старaабрадцы, асабліва жанчыны гэтай канфесіі. Выключэнне складае Гродзенская губерня, дзе адзначаны унікальна-высокі паказчык адукаванасці: 59,3 % у мужчын і 33,3 % у жанчын. Ва ўсіх астатніх губернях удзельная вага пісьменных стараабрадцаў знаходзілася ў межах паміж 25,6 % (Магілёўская губерня) і 13,9 % (Мінская губерня) у мужчын; 5,4 % (Магілёўская губерня) і 1,5 % (Мінская губерня) у жанчын.

У заключэнне варта выдзеліць асноўныя асаблівасці мадэрнізацыйных працэсаў у Беларусі XIX — пачатку XX ст. Па-першае, авангардам мадэрнізацыі ў краінах Еўропы былі гарады, дзе канцэнтравалася прамысловасць, а ў Беларусі значная частка прадпрыемстваў знаходзілася ў сельскай мясцовасці. Па-другое, рухавіком мадэрнізацыі ў краінах Еўропы была буржуазія, купцы, а ў Беларусі — пераважна дваранства, якому належала вялікая частка прамысловых прадпрыемстваў, права сацыяльна-эканамічнай ініцыятывы. Гандлёвая і прамысловая буржуазія недваранскага паходжання была пераважна іншаэтнічнага і іншаканфесійнага паходжання ў параўнанні з большасцю насельніцтва. Акрамя таго, адмоўна адбіліся на разгортванні мадэрнізацыйных працэсаў у Беларусі, асабліва на ранніх этапах, адсутнасць уласнай дзяржаўнасці і звязанай з гэтым пратэкцыяніцкай палітыкі. Напрыклад, чыгуначнае будаўніцтва не ўлічвала прыярытэтаў развіцця Беларусі, змяніла структуру гарадскіх паселішчаў Беларусі. Адным з наступстваў і працэсаў, які спадарожнічаў мадэрнізацыі, было развіццё нацыі і з'яўленне нацыяналізму. У Беларусі нацыянальная ідэалогія і рух былі аслабленымі.

### ЛІТАРАТУРА


1. *Бич, М. О.* Рабочее движение в Белоруссии в 1861—1904 гг. / М. О. Бич. Минск, 1983.

2 . *Біч, М. В.* Нацыянальны склад прамысловага пралетарыяту Беларусі ў канцы XIX — пачатку XX ст. / М. В. Біч // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1972. № 4.





3. *Болбас, М. Ф.* Промышленность Белоруссии. 1860—1900 гг. / М. Ф. Болбас. Минск, 1978.

4. *Верещагин, П. Д.* Крестьянские переселения из Белоруссии (вторая половина XIX в.) / П. Д. Верещагин. Минск, 1978.

5. Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы. Ф. 378. Воп. 1890. Спр. 103.

6. *Каспэ, С. И.* Империя и модернизация: общая модель и российская специфика / *С. И. Каспэ.* М., 2000.

7. *Каханоўскі, А. Г.* Узровень пісьменнасці жыхароў Беларусі на мяжы XIX—XX ст. / А. Г. Каханоўскі // Весн. Беларус. дзярж. ун-та. Сер 3. 2006. № 1.

8. *Липинский, Л. П.* Развитие капитализма в сельском хозяйстве Белоруссии (II половина XIX в.) / Л. П. Липинский. Минск, 1971.

9. *Марзалюк, І. А.* Людзі даўняй Беларусі: этнаканфесійныя і сацыякультурныя стэрэатыпы (X—XVII ст.) / І. А. Марзалюк. Магілёў, 2003.
10. *Носевич, В. Л.* Традиционная белорусская деревня в европейской перспективе / В. Л. Носевич. Минск, 2004.
11. *Панютич, В. П.* Социально-экономическое развитие белорусской деревни 1861—1900 гг. / В. П. Панютич. Минск, 1990.
12. Первая веобщая перепись населения Российской империи 1897 г. СПб., 1903. Вып. IV. Виленская губерния. Тетр. 3.
13. Первая веобщая перепись населения Российской империи 1897 г. СПб., 1903. Вып. V. Витебская губерния. Тетр. 3.
14. Первая веобщая перепись населения Российской империи 1897 г. СПб., 1903. Вып. XI. Гродненская губерния.
15. Первая всеобщая перепись населения Российской империи 1897 г. СПб., 1904. Вып. XXII. Минская губерния.
16. Первая всеобщая перепись населения Российской империи 1897 г. СПб., 1903. Вып. XXIII. Могилевская губерния.
17. *Побережников, И. В.* Переход от традиционного к индустриальному обществу: теоретико-методологические проблемы модернизации / И. В. Побережников. М.: РОССПЭН, 2006.
18. *Самбук, С. М.* Политика царизма в Белоруссии во второй половине XIX в. / С. М. Самбук. Минск, 1980.
19. *Токць, С.* Беларуская вёска ў эпоху зьменаў: Другая палова XIX — першая траціна XX ст. / С. Токць. Мінск, 2007.
20. *Улащик, Н. Н.* Грамотность в дореволюционной Белоруссии / Н. Н. Улащик // История СССР. 1968. № 1.
21. *Шабуня, К. И.* Аграрный вопрос и крестьянское движение в Белоруссии в революции 1905—1907 гг. / К. И. Шабуня. Минск, 1962.
22. *Шыбека, З. В.* Гарады Беларусі (60-я гады XIX — пачатак XX стагоддзя) / З. В. Шыбека. Мінск, 1997.